Цана асобнага нумару 20 грош

# БЕЛАРУСКАЯ СПРАВА

Выходзіць два разы ў тыдзень.

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12—6. (Wileńska 12, m. 6). Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзён. Адміністр. ад 9 да 3. | Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 2 зл. Для заграніцы ўдвая даражэй. Перамена адрэса 30 гр. Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі. | Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грошы і на 4 стр. 15 гр. за радок пэтыту ў 1 шпальту. |
| --- | --- | --- |

№. 1 — Вільня, Пятніца, 9-га красавіка 1926 г. — Год I.

**У гэтым нумары 6 страніц.**

## Праграма і тактыка.

Цяпер у нас натварылася гэтулькі палітычных партыяў і групаў, што вясковаму чалавеку дужа цяжка ў іх разабрацца: якая з іх чаго варта, якой можна верыць і за якой трэба ісьці? Бо-ж кожная з гэных партыяў і груп абвяшчае сваю *праграму* так, што, здаецца, у ёй ёсьць усё, чаго жадае вёска.

Узяць хоць-бы новасьпечаную праграму Беларускага Сялянскага Саюзу. Чаго ў ёй няма!

Тут і „незалежнасьць злучаных Беларускіх зямель" у „фэдэрацыю з суседзямі"—тое, што Усходняя Беларусь мае на дзеле.

Тут і „зямля сялянству бяз выкупу", толькі ж „бяз права спэкуляцыі",—дый і гэта зьдзейсьнена на Усходзе....

Тут і „аб'яднаньне ўсіх беларускіх працоўных сіл",—дык як-быццам тое самае, што паставіла сваей мэтай Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада.

І шмат чаго іншага.

Дык у чым-жа справа? Куды імкнецца гэная новая арганізацыя?!

А справа вось у чым.

Усім пэўне ведама, што Партыя Польскіх Сацыялістаў, тая самая, што цяпер трымае ўладу ў Польшчы ў хаўрусе з самымі заклятымі ворагамі ня толькі сацыялізму, але і ўсіх працоўных наагул,—у загалоўку свайго афіцыозу „Robotnik" напісала кліч: *„Няхай жыве работніцка-сялянскі ўрад!"*.

Гэты кліч—гэта ўсё роўна, як вывеска партыі, як яе сьцяг, за якім партыя хоча павясьці народ. Але што ППС зусім і ня думае вясьці польскія працоўныя масы да зьдзейсьненьня гэнага кліча, аб гэтым сьведчыць *тактыка* партыі, якая на дзеле ствары́ла супольны ўрад з абшарнікамі і фабрыкантамі....

А хто ня помніць выбарнае праграмы „Вызваленьня", якое суліла нам і зямлю бяз выкупу, і родную школу, і аўтаномію, а на дзеле галасавала ў Сойме за аддачу нашае зямлі польскім асаднікам, праводзіла „языковыя законы дзеля школ, паводле якіх зусім зьнішчаны беларускія ўрадавыя школы, ды аб аўтаноміі Заходняе Беларусі забылася назаўтрае пасьля выбараў?!.....

Мы падалі тут гэтыя два дужа яркія прыклады таго, як часта ў партыях *разыходзіцца іх праграма і тактыка,* інакш кажучы: як непадобна бывае тое, што яны гавораць, да таго, што запраўды робяць,—каб гэтымі прыкладамі паказаць, што мала пекнае праграмнае вывескі, каб ужо можна было паверыць нейкай партыі і пайсьці за ёй. Пэўэсам, ня гледзячы на іх пекны лёзунг, ня можа верыць ані работнік, ані селянін, бо партыяй гэнай кіруюць не работнікі і не сяляне, а абшарніцкія сынкі, якія праз партыю хочуць толькі ўзмацаваць панаваньне буржуазіі над працоўнымі, кідаючы работнікам і сялянам адно толькі крошкі з панскага стала.... Вызваленцы маюць на чале былых дэфэнзыўных афіцэраў і асаднікаў, дык дзе-ж ужо ім касаваць у нас польскае асадніцтва і ліквідаваць сваё панаваньне на Беларускай зямлі?!....

Вось, і аб Беларускім Сялянскім Саюзе прыходзіцца сказаць тое самае: *тактыка* гэнае арганізацыі з першых-жа крокаў *разыйшлася* з абвешчанай цяпер *праграмай.* Бо ж, хоць і абвяшчаючы „незалежнасьць злучаных Беларускіх зямель" і „фэдэрацыю з суседзямі", павадыры Саюзу, аднак-жа, становяцца адначасна ў адну проці бальшавіцкую лінію з польскімі буржуазнымі партыямі, якія імкнуцца зьнішчыць як раз тое, што ў Радавай Беларусі зьдзейсьнена ў мысьль праграмы Саюзу... Бо „працу" сваю над „аб'яднаньнем ўсіх працоўных беларусаў" Саюз распачаў з сеяньня недаверыя паміж работнікамі і сялянамі, з падбураньня сялян проці работнікаў шляхам выдумываньня і пашыраньня брахні, быццам работніцкія партыі імкнуцца да адабраньня ў сялян іх зямлі і аддачы абшарнікам.... Бо, цураючыся на дзеле саюзу і супрацоўніцтва з працоўнымі мест, яны пазбаўляюць сялянства дапамогі тае адзінае рэальнае сілы, якая магла-бы падтрымаць імкненьне сялян да зямлі....

Мы гаворым тут аб Беларускім Сялянскім Саюзе, закладзеным паслами Ярэмічам і Рагуляй, не затым, каб лішне вялікую вагу прыдавалі ягоным уплывам (сялянства, навет запрошанае на зьезд Саюзу, паказала, што не згаджаецца з ідэалёгіяй тварцоў яго!), — але затым, каб паказаць, што мала пісаць пекныя праграмы: *трэба ў-ва ўсей дзеяльнасьці палітычнай партыі, у штодзенный працы і ў партыйнай прэсе запраўды праваздзіць у сьвядомасьць народу і ў жыцьцё тыя лёзунгі, якія напісаны ў праграме партыі.* Трэба, каб партыя, якая хоча, каб народ ішоў за ёй, ужо *цяпер, сяньня,* злучала працоўныя места і вёскі, тварыла магутную працоўную армію і вяла яе простай дарогай да мэты, якая зьяўляецца супольнай і сялянству і работнікам.

На такі шлях узышліа зусім правільна Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада. Працуючы адначасна сярод сялянства і работнікаў у мястох, заваёўваючы для беларускае справы паступова і Горадню, і Беласток, і Бярэсьце, гэтая арганізацыя запраўды вытварае тую *еднасьць усіх працоўных, без якое немагчыма іх перамога.*

Бо толькі няўстанным змаганьнем здабываецца перамога, а дзеля змаганьня патрэбны ня пекныя словы, а—*сіла!*

## Да ведама беларускага грамадзянства і закашчыкаў на танную прадажу беларускіх кніг у сьнежані 1925 г. і студзені 1926 г.

**Беларуская Кнігарня** Беларускага Выдавецкага Таварыства, якая істнуе ад 1913 году і зьмяшчалася перш на Завальнай вул., № 7 у лютым месяцы с. г. **перанесена** на Вострабрамскую вул. дом № 1 (рог Гэтманскай).

З прычыны пераносу кнігарні ў іншае памешканьне і зьмены кнігара шмат заказаў засталося ня выпаўненых кнігарняю. Апроч таго, засталіся нявыпаўненымі некаторыя заказы яшчэ і дзеля тэй прычыны, што, як гэта ў свой час паведамлялася праз газэту, некаторыя лісты са сьпіскам прошаных кніг не па віне кнігарні дзесь загінулі.

Цяпер кнігарня без затрыманьня выконвае бягучыя заказы, а таксама і ранейшыя.

Хто з ранейшых закашчыкаў у працягу двох тыдняў ад дня апублікаваньня гэтага не атрымае прошаных кніг, на якія сьпісак загінуў, няхай прышле заказным лістом новы сьпісак ужо **па новаму адрасу кнігарні** і далучыць паштовы квіт на высылку грошаў; тады кнігарня **безадкладна** вышле пажаданыя кнігі **па таннай цане.**

Тых грамадзян, якія засталіся вінны грошы кнігарні за атрыманныя кнігі праз пошту ці ўзятыя асабіста, Таварыства просіць **прыслаць доўг праз пошту ці вярнуць** асабіста **па новаму адрасу кнігарні Вострабрамская № 1.**

За акуратнае выпаўненьне заказаў адпавядальнасьць бярэ на сябе Беларускае Выдавецкае Таварыства.

У кнігарні прадаюцца **беларускія падручнікі, творы беларускіх пісьменьнікаў і пісьменныя прылады.**

Для тых, хто выпісвае кніг ці прыладаў на значную суму, кнігарня дае ськідку.

Заказы выконваюцца толькі па атрыманьні ўсей вартасьці тавару.

На адказ на пытаньні інтэрасантаў і на высылку каталёгу трэба прысылаць паштовую марку ў 15 грош.

**Беларускае Выдавецкае Т-ва.**

## Да беларускай інтэлігенцыі.

*(Голас беларускага настаўніка).*

Цяжкі сум і нейкі жаль ахапляе душу і сэрца, калі і да гэнага часу бачыш, як „культурныя" ўжэнднікі „найкультурнейшага" паньства ў сьвеце, жывучы тут на „Крэсах", зусім ня бачаць народу беларускага і на кожным кроку жыляцца даказаць, што мовы беларускай няма, што культуры беларускай таксама няма, што такою „хамскаю" беларускаю моваю ўстыд карыстацца і г. д. і г. д. І значная частка беларускай інтэлігенцыі гэтага слухае і мовы і культуры роднай пачынае выракацца. Кажу **інтэлігенцыі**, бо на інтэлігента тутэйшыя паны найчасьцей робяць паходы, найчасьцей яму гавораць аб гэтым, стыдаюць яго і стараюцца вытравіць з яго нутра іскру роднага беларускага духу і адцягнуць ад роднага беларускага цёмнага люду. На вясковага мужыка беларуса паны паходу ня робяць. Бачучы цёмнасьць беларускага сярмяжніка, яны абзываюць яго „быдлам", думаючы, што яго, куды захочаш, туды й навернеш: сёньня з яго зробіш расейца, а заўтра паляка, а там і ліцьвінам будзе, дык ціж варта аб ім гутарку вясьці?!

Але з гісторыі вядома, што, калі зьніштожыць інтэлігенцыю якой небудзь нацыі, дык і нацыя гэная загінець, дзеля гэтага, хочучы скарэйшай гібелі беларускай нацыі ў Польшчы, узяліся зьніштажаць беларускую інтэлігенцыю рознымі спосабамі: адных купляюць за грошы, другіх бяруць на розныя мізэрныя пасады і забавязваюць нідзе і не заікнуцца, што ён беларус; на значную частку беспрацоўных беларускіх інтэлігентаў усьцяж накладаюць суровы паліцэйскі „надзор", пазбавіўшы іх апініі палітычнай маральнасьці, а больш адважную і неўгамонную бел. інтэлігенцыю папасаджалі за рашоткі... Вельмі шмат лепшай беларускай інтэлігенцыі ўжо загінула на цярністым шляху адраджэньня, а трусы і эгаісты кінулі свой родны край, сваю родную люднасьць і паўцякалі, хто куды, абы палепшыць свой дабрабыт, а цяпер...

Цяпер дзевяць дзесятых усіх вёсак Беларусі ня маюць свае роднае беларускае інтэлігенцыі, а калі ў якой з гэтых вёсак і застаўся якісь інтэлігент на пасадзе польскага вучыцеля або польскага паліцыянта, дык ад яго ня ўчуеш роднага слаўца. Яму страх, яму нейкі стыд, бо ён „пан", ён мае лякеркі на нагах, і камэндант пастарунку яму руку падае, і на беларуса-мужыка ўжо яны ўдвох дзівяцца, як на „быдла", і паглядаюць скоса...

Цяжка бачыць гэныя факты, аднак гэта праўда. Дзівіцца на гэткага інтэлігента і мужык працоўны. Дзівіцца і думае: „Што за праява?!: Ці ня разам пасьвілі сьвіней на выгане, ці ня разам песьні родныя пяялі, пасучы быдла, ці не дзяліліся кусочкам чорствага хлеба між сабою, ці ня разам пяклі і елі бульбу, як былі на начлезе? А цяпер — вось што! І гаварыць ня хоча"! І ўглядаецца на такога інтэлігента беларус ваража і ня верыць яму і не павінен верыць. Вораг люты беларусу такі інтэлігент!

Чытае іншы раз беларус сваю родную газэту. Прычытаецъ ён кожны радок на некалькі разоў. Жыліцца, каб сьцяміць, аб чым пішуць; незразумеўшы чаго, ён шукае інтэлігента, які бы яму аб палітыцы растлумачыў. Убачыўшы беларускую газэту ў руках беларуса, інтэлігент-здраднік ніколі ня скажа праўды, адно настрашыць селяніна турмою за газэту, абазваўшы газэту „камуністычнай", бо яна аб таким інтэлігенту праўду кажа...

Але часьцей за ўсё ня сьцяміць беларус сярмяжнік: чаму гэта істнуюць якіясь беларускія камітэты і ў Праз Чэшскай, і ў Бэрліне, у Коўне ці ў Варшаве,—там, дзе няма зусім беларускай люднасьці; адно ня робяць ніякіх беларускіх камітэтаў ні ў Саколцы, ні ў Бельску, ні ў Ваўкавыску, або ў Сломіме, ні нат у Баранавічах? Камітэтаў тых натварылі інтэлігенты, што пакінулі бацькаўшчыну і ўцяклі ад роднага люду, шукаючы для сябе лепшай долі, а люд... наш бедный беларускі люд! Ён пазбаўлены свае роднае вясковае інтэлігенцыі. Яна яго пакінула і пакідае ўсьцяж, выракаецца роднага слова і мовы.

Падзівіцеся ўзапраўды на вясковы люд хоцьбы Жыравіцкай воласьці, або Дзятлаўскай, або Кастровіцкай, ці Мітавіцкай, або Маўчадзкай — Слонімскага павету. Чаму ня чутно здаровага голасу беларускай інтэлігенцыі з Бельскага павету, з Сакольскага, або Ваўкавыскага? Што робіць інтэлігенцыя Дзісеншчыны, Вялейшчыны, або Лідчыны? Чаму магільная ціша ад курсантаў жондовых вучыцялёў беларусаў з курсаў віленскіх? Чаму маўчаць, чаму не бароняць правоў беларусаў?!? Ці-ж ня бачаць яны, як гінуць душы беларускіх дзетак?

Мусіць, няма інтэлігентаў у гэных мейсцах, а калі і ёсьць, дык яны дзесь, ляжучы пад панскім сталом, абгрызаюць косьці са стала, ліжуць панскія рукі і маўчаць, баючыся, каб пан ня выкінуў на вуліцу, або ў вастрог ня кінуў, калі адважацца сказаць праўду ў вочы...

Не інтэлігент той, які Бацькаўшчыну кідае ў цяжкі для яе час, які люду свайго выракся дзеля свае скуры, які цураецца мовы роднай, каб дагадзіць пану; які, жывучы з ласкі панскай, ня сумее жыць уласным жыцьцём і дапамагчы роднаму люду; які, бачачы зьдзекі над родным людам і ціхую сьмерць яго, спакойна сабе сьпіць і есьць, ніц ня думаючы; які маўчыць, бачачы няпраўду, які, наеўшыся сам, ня дасьць кавалка хлеба лепшаму сыну свайго роднага люду, што цярпіць за яго ў няволі. Не інтэлігент той, што з-за вугла дзівіцца, як цёмны люд яго, яго брат па крыві, мэнчыцца—уміраючы. Цёмны сярмяжнік такога „інтэлігента“ ўжо ацаніў, ня любіць яго і не павінен любіць...

Селянін і работнік сам змагаецца і, змагаючыся, ужо палітычна апярэдзіў здрадніка-інтэлігента. Паглядзеўшы навакол сябе і ўбачыўшы, што застаўся сам, беларус-селянін і работнік пачаў тварыць жыцьцё сам, без камітэтаў, а інтэлігенты, наадварот, твораць камітэты бяз жыцьця. Селянін і работнік-беларус сваімі высілкамі твораць культуру, а прадажная вясковая інтэлігенцыя гэную культуру топча нагамі, нішчыць яе.

Ці-ж не баліць ад гэтага ў грудзёх? На астатні грош свае мазольнае працы мужык падтрымлівае сваё роднае слова, закладае свае родныя прыватныя беларускія пачатковыя школы, ад свае працы аплачвае труд інтэлігента і заклікае яго да працы, а беларус-вучыцель працуе сабе на пасадзе жондовага польскага вучыцеля і не загаворыць пароднаму да беларуса-дзіцяці (як Грынько ў Рахавічах, або Барвіюк у Нязбодзічах, або Андеюк і шмат інш.). Такіх інтэлігентаў беларуская люднасьць павінна цурацца. Ня слухаць іх і баяцца, як агня.

Мімаволі прыходзіцца ізноў казаць тое, што ўжо даўно сказана: Беларус селянін і рабочы! На сябе спадзявайся! На ўласныя сілы! Змагайся! Лепшыя сыны твае заўсёды з табою. Змагаючыся, ты выйдзеш на лепшую дарогу. Ня йдзі за сьляпымі правадырамі! гані ад сябе прадажную інтэлігенцыю!, байкатуй яе, ня слухай яе, адрозьнівай ваўкоў ад авечак! Тагды выйдзеш з блудных дарог, дабудзеш зямлю і волю і народзіш з сябе лепшую родную беларускую інтэлігенцыю!

Прыслухоўвайся да лепшых сыноў беларускіх, якія самы йдуць проста, йдуць і заклікаюць увесь працоўны народ ісьці дарогаю простаю, пад сьцягам Беларускай Сялянска Работніцкай Грамады. Ідучы, цягні за сабою лепшую інтэлігенцыю вёскі, якую заклікай прыслухоўвацца да голасу Грамады, ісьці за ёю, напружыўшы сваю энэргію да максімум'а і ўліваючы сьвежую сілу ў сэрцы роднага беларускага люду. Так, ідучы дружна, дойдзема да лепшае будучыны, паднімем сваю родную беларускую культуру, паставім яе на ногі і ўздыхнем вольна.

Ня будзе тагды здраднікам беларускага люду мейсца сярод вольнага люду. Тагды праменьне праўды засьляпіць ім зусім вочы, і прыйдзецца ім закладаць тагды камітэты дзе-ж ажно ў Аргэнтыне або ў Новай Зэляндыі.

18. III. 1926. **Трылісьцьнік.**

# Бюджэтныя клапоты урадавае коаліцыі.

Пасьля ведамай „артылерыйскай падгатоўкі“ ў сваей пазнанскай прамове польскі міністар фінансаў зрабіў ужо адкрытую рашучую атаку на сваіх калегаў па коаліцыі—пэпээсаў—у бюджэтнай камісіі Сойму.

Гэтае экспозэ міністра Зьдзеховскага цікава перад усім тым, што ён—у ваенным запале — зусім забываецца рабіць тое, што было заўсёды першым абавязкам міністраў фінансаў у Польшчы: **хаваць праўду...**

Дык можа толькі дзеля таго мы даведаліся ад пана міністра, што гэты год у сеньсе даходаў мае быць значна горшы, як мінулы... І калі ў сваей пазнанскай прамове п. міністар лічыў агульны недахват у бюджэце на 200 міліёнаў, дык у новым экспозэ ён заявіў, што дэфіцыт будзе няменш, як 451 міліён.. Але-ж, калі датаго споўніць яшчэ дамаганьні пэпээсаў (не зьмяншаць пэнсіяў урадоўцам), тады **недахват у дзяржаўным бюджэце Польшчы ў 1926 годзе дасягне вялізарнай сумы — 700 міліёнаў злотых...**

Ясна, што гэта было-б ужо яўнае банкруцтва... Ясна і тое, што трэба прымаць рашучыя меры.

Якія-ж гэта меры?

„Ёсьць усяго толькі чатыры спосабы пакрыцьця недахвату ў бюджэце“,—кажа міністар. Дзіру ў ім можна заткнуць — або пазыкай, або друкаваньнем пустых папяровых грошаў („марак“), ці так званай інфляцыяй, або павялічэньнем даходаў, або, урэшце, — зьмяншэньнем выдаткаў.. — „Але-ж перапрашаю, — ядавіта зварачаецца ў бок пэпээсаў іх калега—эндэцкі міністар: ёсьць яшчэ пяты спосаб; гэта—схаваць галаву, як страўс, пад хвост, дый трэбаваць грошай ад міністра фінансаў“... І вось, казаў далей міністар, „псыхіка (чытай: дурная галава!) нашага грамадзянства пераважна стаіць за гэты пяты спосаб“...

Цікава, які-ж з чатырох спосабаў выбрала разумная галава міністра польскай буржуазіі?

Што да замежнай пазыкі, дык міністар шчыра і маляўніча паказаў камісіі... тры першыя пальцы правай рукі, слушна запрапанаваўшы: злажыце, паночкі, самі!...

Друкаваньне пустых паперак пэўна-ж у некалькі тыдняў зробіць з польскага злотага—польскую „марку“...

Што датычыць трэцяга спосабу—павялічэньня даходаў, ці папросту — спагону вялікшых падаткаў з тых, у каго можна знайсьці патрэбныя для краю грошы (як гэта робіцца ўсюды ў добрых гаспадарках!), дык проці гэтага якраз наймацней апіраецца і абураецца іхні міністар: з капіталістаў—барані, Божа!—браць грошаў ня можна,—бо ж гэткім шляхам — „зруйнуем дарэшты прадукцыю ў краі, павялічым безрабоцьце, пагоршым гандлёвы балянс, што ў канцы найбольш фатальна адаб'ецца на даходах скарбу“.... Іншымі славамі—абшарнікаў, прамыслоўцаў, гандляроў, усялякіх спэкулянтаў дый скарбакрадаў і наагул—усіх тых, што „нясуць для скарбу залатыя яечкі“, крыўдзіць ня можна, бо яны могуць—„перастаць нясьціся“..

Дык астаецца адзін-адзіны магчымы для Польшчы—**чацьверты спосаб** скасаваньня недахвату ў польскім бюджэце; гэта — **абрэзаць, наскольні трэба, выдаткі.** А дзеля таго, што найвялікшыя выдаткі ідуць на дзяржаўных працаўнікоў і работнікаў, дык ясна ж, што якраз яны і павінны, як той казаў, **далажыць галавой,** ці, інакш кажучы, сваей скурай залатаць вялізарную дзіру ў бюджэце краю.. І вось міністар кажа, што, калі прынясьці ў ахвяру ўкаханай айчыне, дзе маюць квактаць і нясьціся эндэцкія куры, гэтых дзяржаўных працаўнікоў і работнікаў, абрэзаўшы ім іх пэнсіі (як гэта і роблена дагэтуль!), тады недахват будзе **толькі... 300 міліёнаў злотых..** Ясна, што трэба—далейшых ахвяраў... І на гэтыя ахвяры кажа міністар,—што ж рабіць,—павінны згадзіцца пэпээсы. За гэта міністар абяцуе ім кінуць—„на безработныя“—6 міліёнаў злотых...—Дзяліцеся, рабеце „публічныя работы“,—усё, што хочаце! 6 міліёнаў на 350 зьлішкам тысячаў толькі зарэгістраваных безработных, дый на цэлы год, гэта значыць лічучы кругла,—**па чатыры з паловай гроша на кожнага безработнага ў дзень...**

Пэўна-ж, калі-б эндэцкаму ўраду ўдалося і на дзеле тым-жа „чацьвертым спосабам“ адпаведна абрэзаць пэнсіі ўсім працоўнікам, дык задача санацыі польскага скарбу была-б вырашана бліскуча, не зачапіўшы саўсім кішанёў капіталістаў... Гэтая сумачка ў 6 міліёнаў для безработных асабліва пекна выглядае побач з тымі 600 міліёнамі злотых, якія эндэцкі міністар толькі—што дараваў капіталістам у Польшчы, каб толькі не перашкодзіць ім —„нясьціся“!...

Няменш цікаўнай—для „стосунэчкаў“ у эндэцка пэпээсаўскай сямейнай коаліцыі — была заява мін. Зьдзеховскага, што ён „нікому і ніколі не абяцаў, быццам пэнсіі ўрадоўцам будуць абрэзаны толькі на першыя тры месяцы сёлетняга году“.. Бюджэт укладаўся на цэлы год, дык ясна, што працаўнікам ня можа быць лепш, але павінна быць значна горш—ад 1 красавіка“...

Сярод пэпээсаў, якія праз увесь час заяўлялі, што пайшлі на коаліцыю пад першым варункам, што пэнсіі ўрадоўцам абрэзаны **толькі** на тры месяцы,—гэткая заява міністра выклікала быццам запраўдную буру... Абражаныя перад усім у сваей амбіцыі пэпээсаўскія махэры „рашуча“ пагражаюць выхадам з коаліцыі!

Але эндэкі ізноў неяк ня спужаліся гэтай пагрозы: яны-ж добра ведаюць, што **ніякага іншага выхаду пэпээсам ужо няма, як толькі—быць разам з імі і пястоўцамі ў хэўры...** Уся „коаліцыя“ добра ведае і тое, што эндэкам, як і ўсей польскай буржуазіі, **выгадна,** каб пэпээсам былі зроблены пэўныя, ведама-ж, — дробныя, але раздзьмуханыя, „уступкі“: тады пэпээсы маглі-б паказаць работнікам, што яны, пэпээсы, маюць „вялікую вагу і павагу ў урадзе“. — Бо-ж толькі тады пэпээсы, а праз іх рукі і іх эндэцкія паны — здолеюць — на якісь час утрымаць на аброці работнікаў... Інакш—уся штучна падтрымліваная дробнымі падачкамі „павага“ ППС сярод работнікаў паляціць, як польская марка, уніз, а ўсе іх пляцоўкі захопяць камуністы... А ведама, што гэтага, горш як сьмерці, баяцца як эндэкі, таксама і пэпээсы...

---

# Уражаньні з падарожы у ССРР. *)

### Ленінград.

15 сьнежня ў 11 гад. дня мы ў Ленінградзе, пастарому—Петроградзе. Рэзыдэнцыя быўш. цароў і міністраў старай дарэвалюцыйнай Расеі і калыска лютавай і кастрычнікавай рэвалюцыі. Хочацца як найхутчэй пабачыць тыя гістарычныя вуліцы і пляцы, гдзе адбывалася змаганьне за лепшую долю, за новы быт.

Выходзім з вакзала. Мароз даходзіць да 30°.

Грамадзяне Ленінграда ў падскоках бягуць па вуліцы і як-бы стараюцца абагнаць адзін аднаго, паціраючы на-хаду вушы. Дапякаець мароз і нас. Асабліва дастаецца тым з калег, якія прыехалі „па-варшаўску“—без калёш і ў капялюшох. Маленькая астаноўка для „фатографаў“ і мы ў аўтамабілях—едзем у гасьцініцу.

Густы туман не даець разглядзець добра вуліцы, але тое, што бачым, г. зн. масы людзей, трамваі і самаходы і т. п., — напамінаець вялікі эўрапэйскі горад.

### Эрмітаж і „Зімні Дварэц“.

Як і ўсюды, стараемся скарыстаць з кожнай мінуты і дзеля гэтага сьпяшым на агледзіны Эрмітажа. Аграмаднейшая будыніна побач з Зімнім Дварцом. Маса карцін эўрапэйскіх мастакоў. Паасобныя салі запоўнены старажытным аружжам, вайсковым убраньнем і рознымі рэчамі з даўных часоў. Відаць, руплівая, дазнаная рука ўсё расставіла і разьвесіла так, каб кожны з экскурсантаў мог як-найлепей аглядзець і атрымаць як найболей прыемнасьці. Пасьля рэвалюцыі паступіла маса новых абразоў з прыватных дамоў старай арыстакратыі, так што не хапаець мейсца ў старых пакоях, і маняцца пашырыць Эрмітаж, аддаўшы пад яго частку пакояў з „Зімняга Дварца“.

Каб агледзіць усё, што знаходзіцца ў Эрмітажы, трэба было б патраціць не гадзіны, а дні. Мы маглі толькі павярхоўна азнаёміцца з гэтым, але і тое, што бачылі, досіць добра сьведчыць аб цэлым і аб багацьці збораў Эрмітажа.

Побач з Эрмітажам і „Зімні Дварэц“. Рэзыдэнцыя цароў цяпер зьяўляецца музэем. Захаваны пакоі цара Мікалая II і Аляксандра II. Здаецца, як быццам яны толькі што выехалі з гэтых пакояў. Усё пакінута ў такім парадку, як было і пры царах. Навет рэчы і вопратка астаўлены там, гдзе былі і раней. Усё гэта знаходзіцца пад апекай цэлага штату служачых, якія клапоцяцца аб тым, каб усё было захавана, не псавалася, ды глядзяць за чыстатой. За маленькую плату кожны з грамадзян мае права аглядзець усе пакоі і атрымаць аб'ясьненьне ад праваднікa.

Такое-ж аб'ясьненьне давалася і нам. Але, як ні прыемна глядзець на творы мастацтва, на старажытнасьці, ды пераносіцца думкамі ў прошласьць, усёжтакі мусім вярнуцца да цяперашняга і пасьпяшыць, каб пасьпець пазнаёміцца і з іншымі ўстановамі. Кідаем апошні погляд на Эрмітаж, „Зімні Дварэц“ і пляц перад ім, на якім у 1905 г першы раз пралілася кроў рэвалюцыйных рабочых, і—едзем у Смольны.

Смольны мае сваю гісторыю навейшых часоў. Тут быў штаб рэвалюцыі ў 1917 годзе, з гэтуль-жа даваліся ўсе рэвалюцыйныя загады ў час змаганьня за ўладу.

Былі прыняты старшынёй Ц. И. К. С. С. С. Р. Петровскім, які адначасна зьяўляецца і старшынёй Сав. Нар. Кам. Украіны. Пасьля абмену думкамі з ім дэлегацыя адправілася на паўторныя курсы земельных работнікаў у Смольным, гдзе азнаёмілася з пастаноўкай асьветы ў зямляробстве.

### Польскі клюб.

Досіць часта чутны галасы і напасьці розных польскіх кругоў на тое, што беларусы няслушна нездаволены сваім лёсам пад Польшчай. Што атрымалі і што сёньня маюць на т. зв. „Крэсах“ беларусы,—хіба вядома навет і дзіцяці. Дзеля параўнаньня, я хачу сказаць пакуль-што некалькі толькі слоў аб тым, чым карыстаецца польская „меншасьць“ у Ленінградзе.

Ёсьць польскі клюб, які знаходзіцца ў невялічкім, але прыгожым асабнячку быўш. кн. Юсупавых. Апрача пекнага вонкавага выгляду, ён маець яшчэ многа добра абстаўленых пакояў унутры.

Заходзім. Бачым бібліотэку, чытальню і, о дзіва! польскія газэты з Варшавы! Далей, ўютны і сымпатычны тэатрык больш як на 500 асоб. Некалькі пакояў для розных патрэб клюбу. Ясна, што і мова там, як на плякатах, так і разгаворная—польская.

Ёсьць і польская школа. Аб ёй ня мне тут гаварыць, бо найлепшую апінію ўжо далі польскія паслы. Гэтак пасол Брыль слушна заявіў: „Нам дужа прыемна бачыць тое ўдачнае вырашэньне нацыянальнага пытаньня, якое выяўляецца ў польскіх школах у СССР“. Я толькі да гэтага дабаўлю, што, калі-б п. Ст. Грабскаму ўдалося хоць 50 проц. сваіх школ так абставіць, то можна было б зусім гэтым здаволіцца.

Пры заводах і фабрыках ёсьць таксама або клюбы, або польскія сэкцыі і бібліотэкі. Вось, што

*) Пачатак гэтае працы пасла Мятлы быў друкаваны ў №№ 12 і 14 „Беларускае Нівы, ды дзеля тэхнічных перашкодаў далейшы друк прыпыніўся, а тымчасам і „Белар. Ніва“ перастала выхадзіць. Дзеля гэтага наш паважаны пасол аддаў далейшы працяг сваіх уражаньняў у нашу часопісь.

Частка, зьмешчаная ў „Бел. Ніве“, абыймае ўражаньні з Масквы і прадстаўляе як-быццам самастойную цэласьць. Далей ідуць уражаньні з Ленінграду і з Радавае Беларусі.

Што ж будзе далей? Ці пэпэсы зьдзейсьняць пагрозу выхаду з коаліцыі?

Пасьля таго, што сказана вышэй, адказ на гэтае пытаньне—ясны.—Пэпэсы кажуць, што яны пакуль што—на сьвяты—адлажылі „рашучы бой“, які яны маюць хутка даць буржуазіі...

Узапраўднасьці справа гэтай адсрочкі „бою“ выглядае зусім інакш.—Адсрочка патрэбна толькі дзеля таго, каб у супольных сямейных перагаворах пэпэсаў з **эндэкамі згодна апрацаваць такі прыёмны для ўсіх кампраміс, які б, кінуўшы пэўныя дробныя падачкі працаўнікам і работнікам са стала разваліўшайся пры ім буржуазіі, даў бы тым самым магчымасьць пэпэсам хваліцца (—з дазволу эндэкаў!) перад работнікамі сваей—„перамогай“...** Бо-ж, паўтараем яшчэ раз,—гэтая „перамога пэпэсаў“ патрэбна перад усім тэй самай польскай буржуазіі, якая якраз і наняла—за юдавы срэбнікі — гэтых пэпэсаў, каб яны—маючы „вагу і павагу“ сярод работніцкай клясы, моцна трымалі апошнюю на вяроўцы...

Адсюль ясна, што ўсе ўзаемныя лаянкі эндэкаў з пэпэсамі—нябольш, як галосны, але нікому з іх няшкодны — „скандал в благородном семействе“.—„Мілыя лаюцца, толькі цешацца“, — як кажа расейская прыказка...

---

Але па сутнасьці справа бюджэту — значна глыбей і паважней, чым думаюць і эндэцкі міністар і яго пэпэсы. Справа ня толькі ў тым, што гэтых 300 міліёнаў, каб заткнуць дзіру ў бюджэце Польшчы, польскі ўрад не дастане навет усімі 4-ма ці 5-ма спосабамі міністра Зьдзеховскага. Бо-ж ані безработныя не здаволяцца 4 грошамі ў дзень, ані ўрадоўцы не дадуць далей „абрэзваць“ жыцьцё сваім жонкам і дзецям—у ахвяру запраўды-ж нейкаму—„няведамаму богу“, якому моліцца польская эндэцыя...

Справа ў тым, што **пагражае рассыпацца ў пясок тая „цэгла“, з якой пабудаваны самы фундамэнт дзяржаўнага бюджэту Польшчы...**

I вось тут мо' найбольш слабое мейсца ў-ва ўсім экспозэ праўдамоўнага міністра Зьдзеховскага.

Міністар бачыць „значнае паляпшэньне і ўзмацненьне польскай валюты—за апошнія 4 месяцы, а таксама і стану рахункаў Польскага Банку“...

Няма што казаць,—гэтыя „рахункі Польскага Банку“ складаюцца вельмі спрытна і гладка... Але мы добра памятаем, што ў ліпні прошлага году пісаў аб гэтых „рахунках“, трэба думаць, нагул жа-ж граматны орган — англійскіх банкіраў, газэта „Таймс“, які з сумным гумарам прызнаваўся, што ён „ня ўмее чытаць выказаў Польскага Банку“, і змушаны для гэтага паклікаць... нямецкага „вучыцеля граматы“!...

Дык вось цяпер і нам астанецца толькі паказаць, як чытае „рахункі Польскага Банку“ гэты „нямецкі вучыцель“...

---

У вельмі паважнай і паважанай (як сцьвярджае навет абшарніцкая „Варшавянка“) швайцарскай газэце „Бунд“ у № ад 15 сакавіка зьмешчаны ў гаспадарчым аддзеле артыкул пад загалоўкам: „Фатум злотага“ („Лёс злотага“). У артыкуле гэтым (зьмешчаным і ў радзе іншых швайцарскіх газэтаў—бо ён разасланы **„Швайцарскім Тэлеграфным Бюро“**!) дадзены разгляд аднаго з апошніх „выказаў рахункаў Польскага Банку“. Мы ня будзем падрабязна перадаваць разважаньні аўтара артыкулу, прывядзем толькі яго аканчальныя вывады. Нямецка-швайцарскі фінансіст згаджаецца, што, калі „рахаваць“ так, як гэта робяць п. Карпіньскі з яго новым Камісарам сэнатарам Шарскім, дык тады можа польскі злоты і „мае пакрыцьце на 31 ці 36 процантаў“ напісанай на ім вартасьці.. Але, калі падрахаваць гэтае „пакрыцьце фондамі“, як трэба, **адкінуўшы ад яго 1) усё тое золата, якое** мае, так толькі сказаць, гонар лічыцца польскім, але ўзапраўднасьці **вывезена заграніцу і ляжыць у чужых Банках—як застаў за пазыкі...** 2) адлічыўшы ад „фонду“, забясьпечываючага польскую валюту, яшчэ і шмат іншых **забавязаньняў Польскага Банку, што неяк забываюцца зрабіць у „выказах“ п. п. Карпіньскі і Шарскі,—дык акажацца, што польскі злоты забясьпечаны золатам дый чужымі валютамі толькі ўсяго на 5 з паловай процантаў тэй сумы, якая на ім напісана.**

Сцьвярдзіўшы гэта, аўтар з дасьціпным захопленьнем кажа, што „трэба прызнаць сучасны курс злотага залішне пекным“ („zu schön)... але сумуе, што, ведама-ж,—такая дэлікатная пекнасьць надоўга ўтрымацца ня зможа... Дзеля таго **ў хуткім часе трэба спадзявацца новага катастрафічнага спадку польскай валюты...**

Такі вывад робіць з свайго аналізу „рахункаў Польскага Банку“ швайцарска-нямецкі фінансіст.

---

Але можна было-б сказаць, што гэткі аналіз (разгляд) „рахункаў Польскага Банку“ нямецкім спэцыялістам нябольш, як „нямецкая інтрыга“, ці „кампанія“ проці Польшчы. Так і піша швайцарскі карэспандэнт абшарніцкай „Варшавянкі“ — у № 89 газэты... Але вось у № 87 тэй-жа газэты адзін з найбольш здольных польскіх фінансістаў, пас. Міхальскі, піша амаль ня тое-ж, што і яго швайцарскі калега. Ен піша, што ў тым „дзіўным краі“ (Польшчы) **валютны фонд зусім счэз ужо некальні месяцаў назад, а мэталічны (залаты) фонд у значнай сваей частцы, вывезены па-за межы краю. Разьменныя білеты (скарбовыя, але не банковыя паперкі), і білён** безвартасьцевыя — бо незабясьпечаныя нічым грошы—**перавысілі колькасьць галоўных грошы—злотага, так што яны сталіся галоўнымі грашмі“...** Гэта-ж і знача, што „галоўныя грошы ў Польшчы ня маюць запраўднай вартасьці. I гэты ўжо чыста польскі аўтар, — **ня бачыць ніякай паправы, ані яе магчымасьці ў будучыні...**

Што-ж далей? Далей—прыдзецца п. міністру Зьдзеховскаму з яго 5 спосабаў выбраць—ня той, які ён хоча, не чацьверты, але — або павялічыць даходы з кішані буржуазіі, або — дапусьціць інфляцыю.

**В.**

# Пралескі.

Мілыя, мілыя сінія кветкі,
Сьветлай вясны улюбёныя дзеткі,
Кветак ёсьць шмат, што за вас прыгажэй...
Толькі, пралескі, вы сэрцу бліжэй...

Гляну я ў вашыя сінія вочкі
І быццам бачу гайкі і лясочкі,
Гдзе з пад сьнягоў пазіраеце вы,
Мілыя дзеці вясны!

Толькі зірну я на вашыя краскі,
Ўспомню вясновыя шчырыя ласкі,
Ласкі і сонца й нябёс,
Песьні, што ветрык прынёс
З сьветлых палёў, гдзе зямля абсыхае,
Сонца гдзе зраньня да ночкі гуляе.

Вашыя вочкі ў сабе адбіваюць
Сіняе неба і хмаркі, што таюць,
Будзіце ціхі, родны мне сум,
Нібы у лесе вясеньні той шум;
Будзіце сілы, што ўзімку драмалі,
Будзіце думкі, што скутыя спалі,
Будзіце мары надзей,
Тых, што за ўсё мне мілей...

Поўныя рожавай мглы пералескі
Вас гадавалі, красуньні—пралескі,
Неба ласкае вас, сонейка шле
Золата кос, пацалункі нясе
Ветрык вам сьвежы... вас любіць вясна,
Вас па лясох рассыпаець яна,

Вы усьцілаеце пуць ёй, вясьне,
Вы яе сымвал, адзнака яе...
Ці-ж не таму вы за ўсё мне мілей,
Дзеці вясеньніх надзей?

**Натальля Арсеньнева**

# Мінуўшчына.

Аддайце славу нашу нам —
Нашто схавалі, расхавалі!!!

Між лет даўгіх няволі й сна,
Зімы й начэй, скаваўшых край, —
Шукаю я цябе, о, май!....
Цябе—народная вясна.....

Быў май... Цьвіло, гулс жыцьцё...
Мігнуў пярун... Прамчаўся конь.
Нясуцца войскі... Дым... Агонь...
Няволі ноч скавала ўсё....

Мінула... Зьнікла... Замялось...
Прайшоў гадоў бязлікі рой... —
І стуль шукаю, як ня свой,
Вясеньніх песьняў адгалось...

Гэй! песьні волі і жыцьця
Вы зноў ахопіце народ
І недалёкі ваш прыход
Вітаю я, чакаю я!...

Заблісьне ярка між народам
Зара чырвоная, як кроў,
Ня будзе гэтакіх дратоў
Паміж Усходам і Заходам....
Чакаю вас, вітаю вас.....

1926 г. **Хв. Ільяшэвіч.**



# Сусьветныя ліхвяры.

Готэнтот над готэнтотамі сучаснага сьвету, Францыя, ня плоціць ужо 10—12 гадоў ніводнага франка свайму найвялікшаму ліхвяру Амэрыцы і дамагаецца, каб тая „вялікадушна“ прызнала ей гэтае яе „сьвятое права“, як найбольш праліўшай крыві—„за агульную справу вызваленьня сьвету ад нямецкага мілітарызму“ (мо' правільней: за замену яго на значна падлейшага гатунку францускі...) Але з свайго боку прызнаць скасаванымі расейскія даўгі Францыя ніяк не згаджаецца, — хаця кожны ведае, што расейскай крыві — якраз на адратаваньне перад усім Францыі ад поўнага разгрому—пралілося ня менш, як у дзесяць разоў больш, чым францускай крыві для... ратаваньня Амэрыкі!

Гэты прыклад найлепш паказуе, на які дзікі грунт стаўляе Францыя справу ваенных даўгоў—сваіх Амэрыцы і царскіх—сабе. Становішча гэтае мае польская „меншасьць“ на „dzikim Wschodzie“, Ленінградзе; а што маем мы на „культурным Захадзе“—навет у Вільні,—чытач ведае сам...

Гледзячы на польскія ўстановы ў Ленінградзе, выдаецца вельмі дзіўным, чаму гэта тамтэйшыя работнікі-беларусы не стварылі дагэтуль нічога свайго беларускага? Бо-ж беларусаў у ленінградзкіх фабрыках да вайны было вельмі многа, дый пэўна-ж і цяпер іх тут нямала! Ці-ж ня знойдзецца чалавек з ініцыятывай, які-б паруліўся аб культурнай справе дзеля сваіх зямлякоў?..

## Тэатры.

Гаворачы аб усіх сваіх уражаньнях, хачу некалькі слоў пасьвяціць і расейскім тэатрам.

Калісь, яшчэ ў часы Керэнскага, мне даводзілася бываць у „Маскоўскім Художэственным Тэатры“ і бачыць на сцэне п'есу М. Горкага „На дне“. Бачыў і цяпер. Тая самая дэкарацыя, ігра і абстаноўка. Жадных перамен. Таксама захапляець публіку, і тыя гадзіны, якія праводзіш там, здаюцца мінутамі.

Такая-ж пастаноўка і ў Ленінградзкім „Малым“ тэатры, гдзе бачылі мы п'есу „Загавор імпэратрыцы“. Гэта зусім новы твор з сюжэтом з нядаўнага прошлага. Абрысавала жыцьцё імпэратарскай сям'і перад вайной і ў час вайны. Змаганьне за ўладу царыцы і ўплывы Распутіна; забойства Распутіна Юсупавым, Пурышкевічам і др., прадстаўлена так, як апісываў сам Пурышкевіч у сваей брашурцы.

Ёсьць і тэатры новага напрамку, як у Маскве тэатр Мэерхольда, гдзе шукаюць новых форм і шляхоў (без дэкарацыі) ў пастаноўцы п'ес.

## Пуцілаўскі завод.

16-га сьнежня каля 6 гадз. правялі мы на Пуцілаўскім заводзе. Адзін з найбольшых і найстарэйшых заводаў на цэлую Расею. У час вайны займаўся вырабам аружжа, цяпер-жа вырабляе сельска гаспадарчыя машыны, паравозы і часткі машын тэкстыльнай прамысловасьці.

Раскінуты завод на плошчы ў некалькі кв. верст, так што аглядзець усё за такі кароткі час, вядома-ж, не ўдалося. Але павярхоўны агляд і параўнаньне дадзеных аб вытворчасьці дае яснае прадстаўленьне аб яго велічыні. Кожны месяц выпускаюць 150 трактараў, а праектуецца падняць вытворчасьць да 500. Бачылі ўжо два паравозы зусім гатовыя і некалькі ў зборцы. У 1922 г. працавалі 2.360 рабочых, а ў канцы 1925 г. — 11.600. Павялічываючы лічбу рабочых, павялічываюць і вытворчасьць прамысловасьці, якая даходзіць ужо да 90 проц. даваеннага часу.

Быт рабочага здавальняючы. Ня прышлося чуць нездаваленьня сваім лёсам ні ад аднаго работніка. Відаць бадзёры настрой, пэўнасьць у сваіх сілах і ў заўтрашнім дню, а таксама відаць ахвоту да працы. Ёсьць фабрычныя камітэты, якія ўхіляюць усялякія непаразуменьні паміж адміністрацыяй і работнікамі і кіруюць гаспадарчым жыцьцём заводу.

Да гэтага трэба дадаць, што работнік мае ў дзень 8 гадз працы, і толькі ў некаторых і дужа рэдкіх выпадках дапускаецца даўжэйшая работа, за што бяруць і дадатковую плату.

Нармальна плата атрымліваецца паводле асобных табліц па аддзелам (разрадам). Такіх аддзелаў 17, прычым да 6 аддзелу йдуць работнікі не кваліфікаваныя, а далей кваліфікаваныя і высокакваліфікаваныя. Сярэдняя заработная плата:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 2 | аддзел | 35 р. | 90 к. | у месяц |
| 3 | „ | 47 „ | 60 „ | „ |
| 4 | „ | 60 „ | 35 „ | „ |
| 5 | „ | 71 „ | 60 „ | „ |
| 6 | „ | 83 „ | 85 „ | „ |
| 7 | „ | 97 „ | 09 „ | „ |
| 8 | „ | 113 „ | 43 „ | „ |
| 9 | „ | 134 „ | 46 „ | „ |
| 17 | „ | 558 „ | 08 „ | „ |

У кастрычніку м-цу 1925 г. 2 катэгорыя атрымала за месяц 38 р. 23 к., а 9 — 143 р. 12 к...

Абед работніка ў спэцыяльнай сталоўцы пры заводзе з двух страў 25—33 кап., а тэхнічнага пэрсаналу з двух страў і гарбаты—40 к. Пры заводзе ёсьць клюб, бібліотэка, школа і тэатр. У Ленінградзе заняты працай на фабр. і заводах 227.000 чал., значыцца, гэтулькі, колькі працавала і ў 1914 г. Ёсьць безработныя, але гэта наплывовы элемэнт з вёскі, які памаленьку ўсасываецца на заводы, а рэшта вясной варачаецца назад на вёску. У кваліфікаваных работніках адчуваецца недастача.

## Порт.

На астатку наведаліся ў порт. Вялікі мароз скаваў Няву і мора. Як шкілеты, стаяць замерзшыя караблі ў порце і ў доках. Відаць дарожкі, праламаныя ледаколамі, па якіх праводзіліся ў порт караблі з таварам. На беразе многа новых будынкаў: складаў, элеватараў для збожа.

Ня гледзячы на мароз і на тое, што скавана лёдам Нява, жыцьцё там не замёрла, і праца ня спынілася.

## Выезд.

Увечары 16/І кідаем гасьцінны Ленінград. Мала пабылі, але бачылі шмат з таго, што будуецца пры новых в рунках і іншым ладзе. Можна з пэўнасьцю сказаць, што пры такім імпэце і напружанасьці працы ўсіх слояў насяленьня Саветы ў нейкія пяць гадоў ня толькі залечаць раны ад эўрапэйскай і грамадзянскай вайны, але й апярэдзяць сваіх суседзяў. Астаецца толькі пажадаць пасьпеху ў працы на карысьць працоўнага люду.

**Пасол П. Мятла.**

